*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 55 (1120)**
Субота, 24 сакавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 80 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер слабы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 0...-2, Магілёве — каля 0, Мінску, Гомелі, Гродна — 0...+2, Брэсце — +1...+3.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі па поўдні пройдзе снег. Вецер паўночна-заходні, 3—8 м/с, па поўдні краіны да 12 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -6...-11, на поўначы месцамі -16...-18, удзень — -1...+4.



# ХТО ШАНУЕ СВАІХ ПРОДКАЎ, СВАЮ АЙЧЫНУ, ТОЙ АДЗНАЧАЕ 25 САКАВІКА ЯК НАЙВЯЛІКШАЕ СВЯТА — ДЗЕНЬ ВОЛІ

## Мы — на сваёй зямлі

25 сакавіка — святы для беларусаў дзень. У гэты дзень 1918 года наш народ абвясціў адраджэнне незалежнай Беларускай дзяржавы. Кожны, хто шануе сваіх продкаў, сваю Айчыну, адзначае 25 сакавіка — дзень Волі — як найвялікшае свята.

Знакамітыя пісьменнікі, мастакі, навукоўцы і вядомыя палітычныя дзеячы паведамілі Мінгарвыканкаму, што грамадскасць, сабраўшыся ў гэты дзень на Юбілейнай плошчы сталіцы, пройдзе арганізаванай калонай да плошчы Свабоды, каб пакланіцца святым мясцінам, звязаным са слаўнай гісторыяй нашай краіны.

Што ў гэтым заганнага, якая тут крамола?

Аднак улада, зневажаючы наш народ, адсылае зноў на былую балотную станцыю, туды, дзе гараджане звычайна выгульваюць сабак.

Мы нікаму не дазволім зневажаць нашы святы, нашы звычаі, нашу памяць. Ніхто не можа забараніць свята, дадзенае народу гісторыяй, Богам.

Мы, беларускія маці і жонкі, звяртаемся да ўладаў: адумайцеся, не ўчыняйце ў гэты дзень правакацый. Не выводзьце на вуліцы бронетэхніку, сабак, не ўчыняйце масавых арыштаў і гвалту, як у мінулым годзе, калі адначасова было схоплена больш за 500 чалавек.

Звяртаемся да міліцыі, да ўсіх ахоўнікаў парадку, якія будуць у гэты дзень выконваць службовыя абавязкі. Ніхто не мае права прымусіць чалавека ў пагонах выконваць злачынныя загады. Не ўчыняйце гвалту, не дазваляйце нікому рабіць з вас катаў свайго народу.

Досыць нянавісці і дзікунства! Дастойна і годна адсвяткуем наша вялікае свята — Дзень Волі.

Мы — на сваёй зямлі.

**Анцыповіч Алена,**
**Байгот-Знавец Марыя,**
**Бельзацкая-Халіп Люцына,**
**Валковіч-Хашчавацкая Тамара,**
**Вячорка Арына,**
**Ганчар Зінаіда,**
**Гюнтэр Людміла,**
**Даўгаполава-Бондарава Вольга,**
**Зімніцкая-Хадыка Валянціна,**
**Кабанчук Таісія,**
**Карпенка Людміла,**
**Каспяровіч Таццяна,**
**Красоўская Ірына,**
**Кудзінава Зоя,**
**Курач-Афнагель Соф'я,**
**Лабковіч Ядзвіга,**
**Леановіч-Клімава Таццяна**
**Лябедзька Святлана,**
**Пушкіна Яніна,**
**Савіцкая Глафіра,**
**Сарокіна Валянціна,**
**Севярынец Таццяна,**
**Сіўчык Галіна,**
**Статкевіч Валянціна,**
**Сушкевіч Ларыса,**
**Чантарыцкая-Адамовіч Юзэфа,**
**Чыгір Юлія,**
**Шарамет Людміла,**
**Шчукіна Любоў,**
**Шыдлоўская Раіса,**
**Ярмоленка-Кійко Алена .**




## Будзем разам!

*Дзень Волі. Што значыць гэтае свята для беларусаў? Як лепей яго адзначыць? Чаму трэба прыняць удзел у мерапрыемствах, падрыхтаваных арганізацыйным камітэтам?*

**Генадзь БУРАЎКІН, народны пісьменнік Беларусі:**

— З гэтым святам звязана адчуванне незалежнасці нашай краіны, адчуванне Беларусі як нацыянальнай краіны. Таму ісці на мерапрыемствы, прысвечаныя Дню Волі, я думаю, павінен старацца кожны, хто адчувае сябе беларусам, хто адчувае сваю нацыянальную годнасць, хто верыць у сілу свайго народа. 25 сакавіка — гэта не нейкая дэманстрацыя супрацьстаяння нечаму, а гэта дэманстрацыя любові да сваёй Радзімы, да права беларусаў быць роўнымі ў свеце. Дзень Волі — свята, якое, на мой погляд, самае дарагое для беларусаў.

Нават самыя зацятыя кансерватары, як я лічу, ужо аддаюць належнае таму, што калі б не было 1918 года, калі б не было сакавіцкіх дакументаў, то, відаць, нам бы сёння не было магчымасці гаварыць пра дзяржаўнасць Беларусі, яе права на незалежнасць, пра яе магчымасці быць роўнай сярод роўных.

А на акцыю трэба прыйсці!

**Уладзімір РАДЗІВОНЧЫК, выканаўчы дырэктар Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў:**

— Што датычыцца мяне, я пачаў адчуваць свята 25 сакавіка ў 89-м годзе. Для мяне Дзень Волі — у першую чаргу адыход ад усіх саўковых традыцый, якія былі раней, і прыход да нацыянальнай ідэі Беларусі. Наша аб'яднанне робіць намаганні, каб новае пакаленне не было сапсавана тым саўковым маразмам, аднапалярнасцю мышлення, якія нам прыйшлося перажыць у недалёкім мінулым. Я лічу, што новаму пакаленню трэба пастарацца не пісаць гісторыю з чыстага ліста, а скарыстаць дэмакратычныя заваяванні, дэмакратычны вопыт, які ўжо ў нас ёсць.

**Таццяна ПРОЦЬКА, старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта:**

— Наяўнасць такіх святаў, як 25 сакавіка, для любой краіны ёсць вельмі адметны момант — нацыя самазацвярджаецца. Ёсць такое паняцце, як "самарэфлексія". У гэты самы дзень нацыя глядзіць на сябе, на сваю гісторыю, на сваё нараджэнне і ў гэтым бярэ сілу. Любая нармальная дзяржава, зацікаўленая ва ўмацаванні сваёй дзяржаўнасці, такія даты, як Дзень Волі, адзначае па-рознаму: і ўрачыста на дзяржаўным узроўні, і на нефармальным. На такіх датах, як 25 сакавіка, трымаецца дзяржаўнасць любой краіны. І Беларусь не выключэнне.

Дзяржава павінна выхоўваць нацыянальную годнасць і самасвядомасць беларусаў. Дзяржава, якая існуе зараз, гэтага, на жаль, не робіць.

**Сямён ДОМАШ, лідэр арганізацыі "Рэгіянальная Беларусь":**

— Я думаю, самае галоўнае, што людзі на Дзень Волі павінны прадэманстраваць, — гэта волю і жаданне жыць у свабодным грамадстве, у незалежнай і суверэннай Беларусі. У Гродне, дзе я жыву, заяўлены мітынг на плошчы Леніна, але ж улады адмовілі яго ў правядзенні там і пагналі нас на гродзенскі "Бангалор" — парк 40-годдзя камсамола. Наша моладзь узяла ініцыятыву ў свае рукі, рыхтуе мерапрыемствы да свята, гулянні".

**Ігар КАМІНСКІ, чытач "Народнай волі":**

— Я абавязкова пайду на акцыю, самі разумееце, чаму. Таму што Дзень Волі — гэта вялікае свята для Беларусі. Мяне хвалюе будучае маіх дзяцей і я хачу жыць у цывілізаванай сучаснай еўрапейскай краіне. Я не адзін пайду на акцыю: сына вазьму і суседа.

**Вячаслаў СІЎЧЫК, намеснік старшыні Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэнне":**

— Дзень Волі — галоўнае свята для любога чалавека, які лічыць сябе грамадзянінам Беларусі. Бо менавіта з Беларускай Народнай Рэспублікі была адроджана ў ХХ стагоддзі ідэя нашай дзяржаўнасці. Акрамя ўсяго іншага, святкаванне Дня Волі заўсёды — гэта ўжо наша барацьба за незалежнасць, за тое, каб Беларусь была еўрапейскай краінай. А гэта азначае, што кожны грамадзянін у гэтай краіне мусіць жыць па еўрапейскіх законах, каб тут быў дабрабыт, каб былі забяспечаны правы чалавека, каб кожная асоба магла добра развівацца.

І таму ў год прэзідэнцкіх выбараў, натуральна, надзвычай важна, каб у святкаванні Дня Волі прыняло ўдзел як мага больш людзей.

Трэба пайсці на акцыю!

**Падрыхтаваў Алесь СІЛІЧ.**

## Зварот да народа Беларусі ў 83-ю гадавіну БНР

**Дарагія грамадзяне Беларусі!**

25 сакавіка 1918 года ў Мінску Трэцяй устаўной граматай была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларусь абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай. Ідэаламі БНР сталі свабода, мір, справядлівасць — блізкія кожнаму жыхару сённяшняй Беларусі.

Утварэнне БНР падтрымалі лепшыя сыны нашага народа. Абвяшчэнне незалежнасці вітаў Янка Купала. На змены, на лепшае жыццё спадзяваліся беларускія рабочыя і сяляне. Аднак супраць самавызначэння беларускага народа выступілі кайзераўскія нямецкія войскі і расійскія бальшавікі. Гэтыя сілы задушылі маладую Беларускую Народную Рэспубліку.

Аднак ідэі дабра і справядлівасці не перасталі жыць у нашым народзе. Сёння Беларусь мае незалежнасць, і нашы хлопцы не гінуць у афганскіх ці чэчэнскіх гарах. Гэта — заслуга Акта 25 сакавіка. Захаваць незалежнасць, якая дасталася беларусам дарагім коштам — значыць забяспечыць будучыню нашых дзяцей. Большасць беларусаў не хочуць жыць так блага, як зараз. Кожны цвярозы чалавек бачыць, што гэтая ўлада існуе толькі дзеля сябе: крадзе, хлусіць, забівае. Кожны жыхар Беларусі прагне пераменаў да лепшага. І гэты год можа стаць пераломным у гісторыі нашай краіны. Сёлета — выбары новага прэзідэнта, і толькі ад нас залежыць наша будучыня.

Незалежнасць нашай краіны, нашага дома — гарантыя міру, стабільнасці і дастатку. Арганізацыйны камітэт заклікае вас далучыцца да святкавання 25 сакавіка — Дня Волі. Разам мы зробім Беларусь шчаслівай.

**Нацыянальны арганізацыйны камітэт святкавання Дня Волі.**

## Не паўтарайце мінулагодні сцэнар

**Беларуская асацыяцыя журналістаў папярэджвае**

"Мінулы год паказаў, што стаўленне ўладаў Беларусі да незалежнай прэсы не змянілася. Больш таго, прэсінг на рэдакцыі незалежных выданняў узмацніўся. Паўсядзённай практыкай сталі выпадкі адмаўлення журналістам у прадстаўленні інфармацыі і акрэдытацыі. Сярод журналістаў нарастае пачуццё страху. Кантралюючыя органы праводзяць працяглыя праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці выданняў, выносяць неабгрунтаваныя папярэджанні, накладваюць разаральныя штрафы. Уладамі на месцах чыняцца перашкоды ў стварэнні новых незалежных газет" — з такім зваротам напярэдадні Дня Волі выступіла Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ).

У звароце згадваецца, што год таму, падчас акцыі апазіцыі з нагоды Дня Волі, супрацоўнікамі сілавых структур былі затрыманы 36 карэспандэнтаў, якія працавалі на асвятленні акцыі. Да іх прымянялася грубая фізічная сіла, аказваўся маральна-псіхалагічны ціск, былі знішчаны адзнятыя матэрыялы, пашкоджана дарагая апаратура. Пры вызваленні журналістам не прынеслі ніякіх прабачэнняў. БАЖ тады запатрабаваў правесці расследаванне гэтага інцыдэнту. Міністэрства ўнутраных спраў і пракуратура хаця і прызналі, што факты парушэння закона супрацоўнікамі міліцыі мелі месца, імёны вінаватых тым не менш так і не назвалі.

*"Напярэдадні важных падзей, якія чакаюць нашу краіну сёлета, падобнае стаўленне да СМІ можа стаць адным з фактараў сацыяльнай напружанасці ў грамадстве"*, лічыць БАЖ. З гэтай нагоды яна заклікае ўлады выконваць канстытуцыйныя нормы і стварыць належныя ўмовы для дзейнасці СМІ; спыніць пераслед незалежных журналістаў; выключыць дыскрымінацыю незалежнай прэсы і, у прыватнасці, спыніць вынясенне неабгрунтаваных папярэджанняў у адрас СМІ. БАЖ заклікае міжнародныя арганізацыі, прафесійныя саюзы журналістаў і "ўсіх, каму дарагія прынцыпы свабоды слова", "падтрымаць гэты зварот і выказаць сваю салідарнасць з журналістамі Беларусі".

**Мікола БУСЕЛ.**

**Не магу маўчаць**

## Смяротны прысуд для Беларусі,

### калі нас паглыне Расія

2 красавіка спаўняецца пяць гадоў з дня ўтварэння саюза Беларусь—Расія. За гэты час выраслі цэны, цяжка стала жыць, і, галоўнае, палохаюць перспектывы. Знешні доўг Расіі складае 158 мільярдаў долараў. Гэта многа ці мала? Вырашыў падлічыць. У Расіі ў 2000 годзе пражывала 148 мільёнаў 366 тысяч чалавек ("Малый атлас мира для школьника"). 158 мільярдаў дзелім на 148 мільёнаў 366 тысяч — атрымліваецца прыблізна 1064 долары. Вось такую суму павінен заплаціць кожны расіянін, уключаючы і самых маленькіх і самых старых, каб выплаціць расійскі доўг.

У мяне могуць запытацца: "Чаму мяне хвалюе доўг нашай усходняй краіны-суседкі. Хіба сваіх праблем мала?" І вось мой адказ:

"8 снежня 1999 года Ельцын і Лукашэнка падпісалі пагадненне аб стварэнні адзінай саюзнай краіны. Усякі разумны, адукаваны чалавек разумее, што ў адзінай краіне двух суверэнітэтаў не бывае. Практычна гэта азначае, што нашай роднай Беларусі быў падпісаны смяротны прысуд. Пачалася рэалізацыя злачынных планаў. У такім выпадку расійскія праблемы — даўгі, ваенныя канфлікты, тэрарызм, затрымкі выплат заробкаў, пенсій — становяцца нашымі праблемамі. На кожнага грамадзяніна нашай краіны ўзваліваюцца абавязкі Расійскай Федэрацыі.

Для мяне цяжкай і ганебнай абузай з'яўляецца выплата расійскіх даўгоў. Зноў падлічым памер даніны. У 2000 годзе на Беларусі пражывала 9 мільёнаў 990 тысяч чалавек. Насельніцтва метраполіі і калоніі складае 148 мільёнаў 366 тысяч чалавек плюс 9 мільёнаў 990 тысяч чалавек. Усяго будзе 158 мільёнаў 356 тысяч чалавек. 158 мільярдаў дзелім на 158 мільёнаў 356 тысяч — атрымліваецца прыблізна 998 долараў. "Падушны падатак" саюзнай краіны складае амаль тысячу долараў. І гэта ў тым выпадку, калі дзяліць будуць не па "братэрску", а на роўныя долі. Не ведаю, як для іншых, а для мяне адна тысяча долараў — сума вельмі, вельмі вялікая. Яе збіраць патрэбна цэлы год, нічога не купляючы: ні харч, ні адзенне, ні абутак, ніякіх іншых рэчаў, што практычна немагчыма. Думаю, што выплачваць гэту суму прыйдзецца ўсё жыццё. З увядзеннем агульнай валюты — расійскага рубля, фінансавая сістэма і эканоміка Беларусі будзе пад кантролем Расіі, і кіраўнікі Крамля будуць мець неабмеркаваную магчымасць нас "абдзіраць як ліпку".

Я хацеў бы, каб паміж Расіяй і нашай краінай былі добрасуседскія, раўнапраўныя, партнёрскія адносіны. Улічваючы вялізарную цану "единения", я ніколі не змагу маральна падтрымаць паглынанне Беларусі Расіяй.

"Адзіная саюзная" краіна будуецца на лжы і падмане. За ўвесь гэты час, акрамя "славянскага братэрства", "інтэгратары" не маглі прывесці ніякіх важкіх аргументаў. На БТ замоўчваюцца страшныя праблемы Расійскай Федэрацыі, каб не падарваць ідэю "единения". Як любы чалавек, я магу памыляцца, аднак прашу ўсякую інфармацыю ўспрымаць крытычна. Людзі! Не дайце сябе падмануць. За чужы падман прыйдзецца заплаціць страшную цану. І не толькі збядненнем.

Жыве Беларусь!

**Аркадзь ГАЛАЙ, рабочы.**

Мінск.

## Просім прабачэння

У мінулым нумары "Народнай волі" ў артыкуле Таццяны Кучынскай "Прадэманструем Еўропе магутнасць жабрацкай арміі" па віне аўтара была дапушчана прыкрая памылка. Вядома, ракеты **нізкапаветранага** зенітна-ракетнага комплексу С-125 ("Нева") не могуць знішчаць паветраныя цэлі на вышыні ад 300 да 12.000 кіламетраў, як было напісана ў матэрыяле. Агнявыя сродкі С-125 дазваляюць дасягнуць цэль на вышыні ад 300 да 12.000 **метраў**.

Аўтар матэрыяла і рэдакцыя просяць у чытачоў прабачэння не толькі за гэтую памылку, але і за іншыя, якія, здараецца, трапляюцца ў публікацыях. Газета выдаецца ў экстрэмальных умовах і, вядома, няпроста не дапусціць хібаў у рабоце.

**Зеркало**

## III. Портрет короля вопреки очевидности

*Социологическую науку недостаточно понимать как обычное измерение социальных явлений, как количественное описание той или иной социальной фактуры. Низведение специфики социологии до уровня статистической маркировки социального материала оборачивается тем, что заинтересованный взгляд лишь скользит по поверхности социального феномена, не проникая в его толщу, не раскрывая качественное состояние пульсирующей в нем жизни. В результате вместо развития общественного сознания происходит его вульгаризация, с помощью социологической аргументации фабрикуются "ходячие" мнения.*



*(Окончание. Начало в №№52, 53)*

**Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук**

### Доите, Шура, доите

За иллюстрацией еще раз обратимся к социологическим изысканиям легендарного Новака (тот же опрос общественного мнения РБ в августе 2000 г.). Вот он формулирует вопрос: *если на выборах в парламент по вашему округу будут баллотироваться два кандидата, один из которых поддерживает политику президента, а другой его оппонентов, за кого из двух вы будете голосовать?*

Погодите, законно скажете вы, о какой президентской политике идет речь, ведь существуют десятки ее измерений? Тем не менее в инструментарии для уточнений на сей счет места не нашлось. Ничего не подозревающим респондентам в очередной раз предложили поучаствовать в "доении" козла.

Разъехавшиеся по городам и весям страны интервьюеры настойчиво вопрошали белорусских граждан о любви к сыру вообще. И получили вполне утешительную для "главного" белоруса картину. Он в очередной раз предстал деятелем, политический курс которого пользуется весьма значительной поддержкой. За кандидата в депутаты, солидарного с политикой президента, готовность проголосовать высказали 44% опрошенных. И только 25% респондентов выразили готовность поддержать на октябрьских выборах оппонентов политики главы государства.

Но так ли все благополучно в датском королевстве? Вопрос о поддержке президентской линии, как и вопрос о любви к сыру, поставленный вне конкретной практики, рождает соответствующий ответ "вообще". Получаемое в этом случае массовое "одобрямс" есть преимущественно артефакт или, как говорят, "жареный" факт, то есть некий вторичный продукт, прошедший вуалирующую обработку. В данном случае упакованный в идеологические фантики президентской пропаганды и сохранившихся в головах людей стереотипов советской политической культуры.

Тезис, который напрашивается при более корректной постановке соответствующего вопроса (вопросов), гласит: более половины белорусов критически оценивают деятельность первого белорусского президента. Значительное большинство белорусских граждан составляют оппозицию экономическому и социально-политическому курсу главы белорусского государства. Его сторонники, образующие социальную базу установленного им режима личной власти, численностью намного уступают когорте тех, кто неосознанно или осознанно несогласен с политикой белорусского президента.

**Таблица №1.**

**ОТВЕТЫ РЕСПОНДЕНТОВ НА ВОПРОС: КАК ОНИ ОЦЕНИВАЮТ НЫНЕШНЮЮ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ БЕЛОРУССКОГО ПРЕЗИДЕНТА И ЕГО КОМАНДЫ, НАХОДЯТ ЛИ ОНИ ЕЕ ДОСТАТОЧНОЙ, ЗАСЛУЖИВАЮЩЕЙ ИХ ПОДДЕРЖКИ? (в %)**

| Направления деятельности | Годы | Поддерживаю | Не поддерживаю | Трудно сказать |
|---|---|---|---|---|
| 1. Ценовая политика | 1994 | 30 | 54 | 16 |
| | 1996 | 21 | 50 | 29 |
| | 1998 | 20 | 60 | 20 |
| | 2001 | 10 | 63 | 27 |
| 2. Социальная защита населения | 1998 | 44 | 32 | 24 |
| | 2001 | 31 | 42 | 27 |
| 3. Реорганизация органов власти | 1994 | 35 | 21 | 44 |
| | 1996 | 31 | 33 | 36 |
| | 1998 | 23 | 32 | 45 |
| | 2001 | 21 | 35 | 44 |
| 4. Борьба с коррупцией, преступностью | 1994 | 62 | 16 | 22 |
| | 1996 | 46 | 30 | 24 |
| | 1998 | 55 | 20 | 25 |
| | 2001 | 39 | 31 | 30 |
| 5. Политика в отношении предпринимательства | 1994 | 42 | 25 | 33 |
| | 1996 | 34 | 36 | 30 |
| | 1998 | 32 | 33 | 35 |
| | 2001 | 19 | 45 | 36 |
| 6. Оплата труда | 1994 | 24 | 56 | 20 |
| | 1998 | 22 | 57 | 21 |
| | 2001 | 17 | 65 | 18 |
| 7. Защита гражданских прав и свобод | 1998 | 32 | 34 | 34 |
| | 2001 | 25 | 42 | 33 |

Приведем результаты уже упоминавшегося мониторинга, осуществленного социологической лабораторией "СЭИС"* (см. таблицу №1). Составители инструментария исходили из того, что для понимания линии гражданского поведения человека важны первичные потребности. В конечном счете, они а не индивидуальные идеологические пристрастия, определяют его политический выбор. В основе такого подхода лежит очень старая идея о том, что человек, прежде чем заниматься философией, искусством, юриспруденцией, политикой, то есть идеологическими формами, должен пить, есть, одеваться, иметь крышу над головой.

*(Окончание на 2-й стр.)*

В первой части статьи (22.03.2001 №53) была допущена опечатка. На 2-й полосе (5-й столбец, 36 строка) вместо 15.000 человек следует читать 1.500 человек.

Навіны

## Трое кандыдатаў у дэпутаты аб'явілі галадоўку

**Чарговае пасяджэнне Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, на якім падводзіліся вынікі першага тура паўторных выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, завяршылася скандалам. Трое кандыдатаў — Алег Мазго, Юрый Васкрасенскі і Васіль Сільчук, якія балаціраваліся па выбарчай акрузе № 105 горада Мінска, прама ў зале пасяджэння аб'явілі галадоўку.**

Незадаволенасць кандыдатаў выклікана адмаўленнем Цэнтральнай камісіі задаволіць іх скаргу аб адмене вынікаў галасавання па 105-й акрузе. Паводле звестак ЦВК, перамогу ў гэтай акрузе ўжо ў першым туры выбараў атрымала выкладчык Мінскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта Надзея Цыркун, якая набрала 54 працэнты галасоў выбаршчыкаў. Аднак яе апаненты лічаць, што падчас правядзення галасавання было дапушчана масавае парушэнне выбарчага заканадаўства. Разгледзеўшы іх скаргі, Цэнтральная камісія палічыла прадстаўленыя ёй доказы фальсіфікацыі выбараў непераконнымі і зацвердзіла пратакол галасавання акружной камісіі.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Пабаяліся... новага стагоддзя

**У Беларускім гуманітарным ліцэі было сарвана пасяджэнне "круглага стала" "Новае стагоддзе і барацьба за незалежнасць Беларусі".**

Арганізатар мерапрыемства — Нацыянальны камітэт па святкаванні Дня Волі — прымеркаваў яго да 83-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У працы "круглага стала" павінны былі ўзяць удзел вядомыя беларускія вучоныя і грамадскія дзеячы — Анатоль Грыцкевіч, Валянцін Голубеў, Валянцін Мазец, Анатоль Сідарэвіч, Андрэй Кіштымаў, Уладзімір Ляхоўскі, Станіслаў Рудовіч, Уладзімір Снапоўскі. Аднак калі яны і іншыя ўдзельнікі прыйшлі да будынка ліцэя, ён аказаўся зачыненым. Паколькі кіраўнікі гэтай навучальнай установы зараз знаходзяцца ў Польшчы, засталося незразумелым, хто распарадзіўся не пускаць людзей у будынак. Паводле некаторых звестак, гэта быў адзін з намеснікаў дырэктара ліцэя.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## "Табу" на Зміцера Завадскага?

**Як стала вядома, інфармацыю аб ходзе расследавання справы па вышуку выкрадзенага ў мінулым годзе аператара Грамадскага Расійскага Тэлебачання (ГРТ) Зміцера Завадскага ўтойваюць не толькі беларускія праваахоўныя органы. "У рот вады набралі" і браткі-расіяне.**

У сярэдзіне тыдня, напрыклад, першы намеснік міністра ўнутраных спраў Расіі Уладзімір Казакоў адмовіўся даць інтэрв'ю на гэтую тэму кіраўніка карпункта ГРТ у Мінску Зміцеру Наважылаву. У прыватнай размове Казакоў даў зразумець, што "табу" на публічныя выказванні па гэтай тэме зыходзіць ад самога міністра ўнутраных спраў Расіі Уладзіміра Рушайлы. Зараз кіраўнікі МУС Расіі, відавочна, адкрыта асцерагаюцца публічных выказванняў пра ход расследавання гучнай справы і не згаджаюцца кампраметаваць дзеянні беларускіх спецслужб.

Цынізм — паняцце інтэрнацыянальнае?

**Алесь СІЛІЧ.**

## Уганда правярае беларускія самалёты

**Улады афрыканскай краіны Уганды пачалі праверку самалётаў МІГ-21, якія былі закуплены ў Беларусі, паведаміла беларуская служба Радыё Свабода. Гэтыя праверкі ладзяцца з дапамогай замежных інструктараў, чыё грамадзянства трымаюць у тайне.**

Магчыма, праверкі звязаныя з інцыдэнтам, які адбыўся 13 сакавіка ў Перу, — там разбіўся МІГ-21 — набыты ў Беларусі. Паводле розных крыніц, Перу закупіла ў Беларусі, пачынаючы з 1996 года, ад 12 да 21 знішчальніка МІГ, ад 14 да 18 штурмавікоў Су-25, а таксама сістэмы супрацьпаветранай абароны. Як паведамляе амерыканскае выданне Christian Science Monitor, агульная сума кантрактаў толькі на пастаўкі МІГаў з Беларусі і запасных частак да іх з Расіі склала амаль мільярд долараў ЗША. Пры гэтым паплечнікі былога прэзідэнта Перу Альбэрта Фухіморы атрымалі вялікія камісійныя — следчая камісія парламента Перу называе менавіта гэтыя кантракты асноўнай крыніцай, з якой атрымліваў грошы Уладзімеро Мантэсінас, былы кіраўнік Перуанскай разведкі, які займаўся закупкамі зброі.

Летась парламент Уганды хацеў расследаваць пакупку ў Беларусі няспраўных верталётаў. Аднак угандыйскім дэпутатам, якія хацелі наведаць Беларусь, адмовілі ў візах.

**Алесь АБРАМОВІЧ.**

## Грубы ціск на суддзяў

**У распараджэнне Беларускага Хельсінкскага камітэта (БХК) трапіла копія ліста Упраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама, адрасаванага старшыням раённых судоў і пракурораў раёнаў.**

У ім зазначаецца, што ў адпаведнасці з Планам асноўных арганізацыйна-ідэалагічных мерапрыемстваў аблвыканкама, "у першым паўгоддзі 2001 года неабходна арганізаваць сустрэчы ў працоўных калектывах з работнікамі пракуратуры і судоў па растлумачэнні палітыкі кіраўніка дзяржавы ў галіне прававога будаўніцтва, норм заканадаўства, якія будуць забяспечваць правы і свабоды грамадзян".

Паводле звестак БХК, апрача гэтых мерапрыемстваў, раздзел "Прававое забеспячэнне маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў" згаданага плана прадпісвае "паказваць ролю кіраўніцтва дзяржавы... у развіцці культуры, адукацыі, навукі, стымулявання творчай працы, прапаганды інавацыйных ідэй і перадавога вопыту, выкарыстоўваючы ўсе сродкі прапаганды".

БХК расцэньвае дадзены ліст "як прамое грубае парушэнне прынцыпу незалежнасці суддзяў, спробу ўцягвання іх у палітычную дзейнасць, як непасрэднае выкарыстанне дзяржаўнага апарата ў перадвыбарнай агітацыі за дзеючага прэзідэнта".

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

Не могу молчать

# Хищники увозят лес

## Беларуси остаются корешки, вершки и безработица



**Городу Вилейка Минской области два года тому назад исполнилось 500 лет. На его гербе изображена ладья на фоне голубых волн красавицы Вилии. Веками ладьи перевозили к Балтийскому морю плоды трудов моих предков: лес, мед, лен, коноплю, олей из семян.**

**Что осталось от красоты Вилии на пороге XXI века? Мутная, отравленная химией канава, которую легко переходят городские коровы. Не может украсить Вилию и городская плотина — убийца рыбного богатства реки, ее многочисленных притоков и заливных лугов. Из вышеупомянутого перечня экспортной продукции в настоящее время сохранился только лес.**

С Вилейской железнодорожной погрузочной площадки (то есть из зеленой зоны столицы) за рубеж отправляется 25—30 вагонов леса ежемесячно, и это количество составляет менее 10 процентов общего объема экспорта (как правило, кругляк). Основной поток — более 90 процентов — вывозится автотранспортом, так называемыми фурами. Вид экспортной продукции: сосна, ель, береза (фанерное сырье), виноградный кол, пиломатериал обрезной. Страны назначения: почти вся Западная Европа плюс Литва и Россия.

Объемы продукции, поставляемой Вилейским лесхозом, за 1999 год составили 272.165 м³. За 2000 год вывезено 277.788,71 кубометров древесины.

Особенно ценен вывозимый кругляк березы — стратегическое сырье, основа фанерного производства любой страны. Поясню также, что в ста метрах от погрузочной площадки расположен Вилейский ДОК — деревообрабатывающий комбинат — мертвый, засыпанный снегом завод. Мертвый по причине... отсутствия сырья. Сырье увозят. Увозят заводскую работу, НАЛОГОВЫЕ ОТЧИСЛЕНИЯ В БЮДЖЕТ, экономическое благосостояние города, района, страны. Хозяевам леса остаются корешки, вершки и несбыточные надежды на лучшее будущее.

Внешнеэкономическая деятельность Вилейского лесхоза за 1999—2000 годы охватывает далеко не весь объем экспортной лихорадки, указанной выше. В середине февраля я побывал в соседнем Молодечненском лесхозе, представившись российским лесопромышленником из Нижнего Новгорода (в Вилейском лесхозе меня знают в лицо). И был приглашен участвовать в аукционе по продаже лотов — делянок леса на самозаготовку, во второй четверг каждого месяца. Единственным условием для участников является наличие лицензии и толстый кошелек с валютой. Жаль, что я не располагал временем да и кошельком с валютой для участия в аукционе. Но и без того нетрудно представить масштабы коммерческой распродажи лесов.

Сообщаю для размышления достоверный факт: в Логойском районе Минской области 19 (девятнадцать!) частных пилорам режут лес на доску обрезную, брус и отправляют его фурами в ту же Западную Европу, Литву и Россию. Беларуси остаются корешки, вершки и безработица на многие годы... Даже школьнику известно, что на восстановление лесных ресурсов Природе потребуется не менее ста (!) лет.

Молодые мои друзья нового гражданского движения "Зубр"! Я предлагаю вам с видеокамерой пройти по маршруту, по которому прошел я, прежде чем изложить на бумаге свой крик души.

Помните, времена железных занавесов минули безвозвратно. Пройдите по заснеженной территории Вилейского ДОКа, побывайте на погрузочной площадке железнодорожной станции, нижнем складе Вилейского лесхоза, куда свозят хлысты. Снимите крупным планом срез комля: уверен, вы насчитаете на срезе 50—60 возрастных колец вместо "законных" ста — базовой цифры расчетной лесосеки. Это значит, что режут любой лес, в том числе и молодой. Поэтому в документах он значится как продукция рубок ухода, или санитарных рубок. Это для простодушных. Лесорубам нужна кубатура, за нее платят доллары, марки, литы. А как же профессиональная совесть белорусских лесоводов?! — спросите вы. На этот вопрос я не знаю ответа.

Кстати, о литах. Среди иностранных заказчиков есть и Литва. Она своим лесом не торгует, предпочитая покупать его в Беларуси по дешевке. Необходимые валютные резервы она создает поставками продуктов питания на мировой рынок — знаменитыми литовскими сырами, колбасами, пушниной. Кто же нам мешает поступать подобным образом — развивать собственное производство, а не тянуть руки к тому, что принадлежит не столько нам, сколько нашим потомкам?!

По законам жанра, телерепортаж обычно заканчивается моралью. Ведь не хлебом единым... Поэтому советую вам посетить Вилейскую достопримечательность — деревушку Забродье, что приютилась на берегу речки Нарочанка. Там живет семья замечательного белорусского художника Б.Б.Цитовича. Борис Борисович и его жена-искусствовед Валентина Петровна непременно сводят вас на возрожденное захоронение российских воинов близ полевого госпиталя времен первой мировой войны. С часовней, колокольней. Это результат их многолетних творческих усилий. На берегу Нарочанки разбит парк, деревья которого посажены односельчанами — участниками Великой Отечественной войны, а также многими известными деятелями Беларуси, в том числе и Василем Быковым. Побывайте и вы в Забродье, не пожалеете. Запаситесь видеопленкой. Вы узнаете, что лес этой заповедной зоны едва не попал под лихорадку лесозаготовок. Зато в окрестностях заповедной территории лесорубы постарались: вы увидите типичную картину белорусского лесоповала, не совместимую ни с какими природоохранными нормами, с нарушением гидрогеологии, уничтоженными растительным покровом, почвами, грибницей, ягодниками... После нас — хоть потоп!

Лесная белорусская наука! Приди и ты в Забродье вместе с молодыми людьми из "Зубра"! Посмотри, как орудуют хищники из Вилейского лесхоза, как они выполняют твои научные рекомендации при лесозаготовках. Приди сегодня, иначе завтра, ты, наука, останешься без работы. Так же, как осталось без работы лесное белорусское производство; его символ — засыпанный снегом Вилейский ДОК...

**Станислав ЛЕШКОВИЧ,**
**бывший фермер из Вилейского района, член Нижегородского экологического движения "Зеленый мир".**

## Вучыць асобу, а не абстракцыю

Азнаямленне з праектам закона, які падаецца як "унясенні зменаў і дапаўненняў у закон аб адукацыі", паказвае, што, паводле закладзенай канцэпцыі, гэта ніякія не "змены" і не "дапаўненні". Чорным па белым напісана, што "праект вызначае прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў сферы адукацыі, ...вызначае асноўныя правы і абавязкі ўдзельнікаў адукацыйнага працэсу".

Базавае паняцце "адукацыя" ў праекце закона (арт.2) падаецца ў нейкай абстракцыі як "сацыяльна арганізаваны працэс навучання і выхавання" без арыентацыі на канкрэтны аб'ект гэтага працэсу — асобу. Наогул у праекце паняцце "асоба" адсутнічае. А што ў аналагічным законе суседняй Расіі? Там у цэнтры адукацыйна-выхаваўчага працэса пастаўлена асоба. "Пад адукацыяй разумеецца мэтанакіраваны працэс навучання і выхавання ў інтарэсах асобы, грамадства, дзяржавы".

У расійскім жа законе адназначна гарантуецца права на атрыманне адукацыі на роднай мове. Грамадзяне Расійскай Федэрацыі маюць права навучацца на роднай мове, а таксама на выбар мовы навучання. Такія правы забяспечваюцца стварэннем неабходнай колькасці адпаведных адукацыйных установ, класаў, груп, а таксама ўмоў для іх функцыянавання. Там дзяржава ў адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі і пагадненнямі аказвае садзеянне ў атрыманні адукацыі на роднай мове і прадстаўнікам народаў Расійскай Федэрацыі, якія жывуць па-за яе тэрыторыяй. Вывучэнне дзяржаўных моў рэспублік у складзе Расійскай Федэрацыі рэгулюецца заканадаўствам гэтых рэспублік. Прытым дзяржава аказвае дапамогу ў падрыхтоўцы спецыялістаў для здзяйснення адукацыйнага працэсу на мовах народаў Расійскай Федэрацыі, якія не маюць сваёй дзяржаўнасці.

Пытанне да распрацоўшчыкаў "беларускага" праекта: вы ж, пэўна, закон Расіі, як і іншых краін, выкарыстоўвалі, так? Чаму ж вы ўзялі з іх не прагрэсіўныя, цывілізаваныя нормы, а толькі тое, што працуе на здзяйсненне інтэлектуальнага рабаўніцтва? Наколькі трэба страціць пачуццё адказнасці інтэлігента, юрыста-законатворцы, педагога, настаўніка, маці, бацькі, бабулі, дзядулі, каб стварыць такі праект закона, які будзе сякерай у руках забойцаў беларускага этнасу...

**Мікола САВІЦКІ,**
**прафесар.**

Мінск.

Памяць

## "Дума пра вас даводзіць мяне да адчаю"

### Пакуль Курапатам не нададзены статус мемарыяльных магілак, там будуць шыкаваць пікнікі

**Мінула 12 год з таго часу, калі ў газеце "Літаратура і мастацтва" з'явіўся вядомы артыкул "Курапаты — дарога смерці". Тады ўпершыню, і менавіта па фактах, якія ўтрымліваў артыкул, у Савецкім Саюзе была адкрыта крымінальная справа супраць дзяржавы за злачынствы над сваім народам.**

Са слоў гісторыка Ігара Кузняцова, "апошнія чатыры гады курапацкая праблема ўзнікае толькі падчас Дзядоў, калі традыцыйна ўскладаюцца кветкі да помнага крыжа "Пакутнікам Беларусі" — выконваецца своеасаблівы рытуал. Гэта добра, але ў жыццё ўвайшло новае пакаленне, якое ўвогуле пра трагедыю нічога не ведае".

Як вядома, першае следства было праведзена ў 1988 годзе. Спецыяльна створаная камісія абследавала мясцовасць прыкладна ў 30 га, і было знойдзена 510 ямаў-пахаванняў. Хаця ўскрытыя былі толькі паўтары дзесяткі магілаў, чыста матэматычна — як прынята ў такіх выпадках у прафесіяналаў, паколькі ў адной магіле знаходзіліся парэшткі прыкладна 60 людзей — быў зроблены агульны падлік курапацкіх ахвяраў: прыблізна 30 000 чалавек. Следства было скончана, дзяржаўная камісія па расследаванні, на чале якой была Ніна Мазай, тады намеснік старшыні Вярхоўнага Савета, у снежні 1988 г. прыйшла да рашэння абнародаваць інфармацыю, што пад Мінскам, за 200 м на Поўнач-Паўночны Захад ад мікрараёна "Зялёны Луг", на тэрыторыі Бараўлянскага сельсавета Мінскага раёна органамі НКВД БССР у перыяд з 1937 да 1941 г. чыніліся масавыя расстрэлы цывільных грамадзян.

Але ўжо ў ліпені 1991 года нейкая грамадская камісія звярнулася ў пракуратуру СССР з патрабаваннем правесці новае, больш аб'ектыўнае следства. Прыехалі новыя следчыя, папрацавалі, ды нічога новага прынцыпова не знайшлі. Потым быў путч, распад Савецкага Саюза, і матэрыялы гэтага другога следства надрукаваны не былі. У лютым 1992 г. сябры новай грамадскай камісіі нечакана звяртаюцца ў Вярхоўны Савет з патрабаваннем ізноў правесці новае следства. Гэты ж самы зварот яны накіроўваюць у Вярхоўны Савет і ў 1993 г. У лістападзе 1994 г. грамадская камісія на чале з Іванам Загараднюком, былым партызанам, звяртаецца ў Адміністрацыю прэзідэнта, пракуратуру і гэтак далей з тым жа самым патрабаваннем, бо ў гэтай камісіі з'явілася, на іхнюю думку, абгрунтаваная версія, што ў Курапатах ляжаць парэшткі расстраляных немцамі габрэяў з Заходняй Еўропы.

Новае даследаванне было распачатае. На чале яго стаў старшы следчы па асабліва важных справах пракуратуры Валеры Камароўскі, і па выніках працы ў снежні 1995 году ва ўсіх дзяржаўных газетах была надрукавана пастанова, у якой сцвярджалася: падстаў да аднаўлення следства няма. Вясною 1997 года грамадская камісія ізноў, разам з гарадскім клубам гістарычных ведаў, на чале якога стаіць прафесар Адам Залескі, шчыры сталініст і шматгадовы апанент Ігара Кузняцова, звярнулася ўжо да прэзідэнта Лукашэнкі з патрабаваннем правесці яшчэ адно даследаванне: пракуратура ж вяла справу неаб'ектыўна, а ў Курапатах ляжаць расстраляныя фашыстамі гамбургскія габрэі. Грамадская камісія знаходзіць нейкіх неверагодных сведкаў, якія нават і не ведаюць, дзе знаходзяцца Курапаты. Расследаванне даручаецца вайсковай пракуратуры.

Ізноў пачынаецца ўсё з нуля. Вайсковая пракуратура працуе прафесійна, і падчас чарговай эксгумацыі ў лістападзе 1998 года знаходзяць самае вялікае захаванне — магілу з парэшткамі 300 чалавек. Бясспрэчна, на следства ўплывалі, а да архіваў КДБ следчых не дапусцілі. Але і гэтая група аніякага нямецкага следу ў Курапатах не знайшла. І 1 красавіка 1999 года справа была спынена. Гэткім чынам, пасля ўсіх чатырох даследаванняў курапацкая справа налічвае цяпер каля 20 тамоў матэрыялаў.

Асноўны доказ сяброў грамадскіх камісій, якія ўпарта дамагаюцца пераносу віны за злачынства ў Курапатах са сталінскіх органаў на нямецкіх фашыстаў, — гэта знойдзеныя асабістыя рэчы ахвяраў не толькі з савецкімі, але і з замежнымі маркіроўкамі. Але ж агульна вядома: 17 верасня 1939 года савецкае войска прылучыла Заходнюю Беларусь да СССР, жыхары якой, відавочна, насілі адзенне і абутак несавецкай вытворчасці.

Валеры Камароўскі, старшы следчы па асабліва важных справах пракуратуры, атрымаў таксама даведку з Інстытута Халакосту еўрапейскага габрэйства ў гады другой сусветнай вайны Яд-Вашэм, дзе гаворыцца што ў архіўных дакументах і картатэцы не пазначаны населеныя пункты Цна-Ёдкава, Зялёны Луг і ўрочышча Брод у раёне Мінска як месцы масавых расстрэлаў габрэяў. Дарэчы, Курапаты — не адміністрацыйная назва гэтай мясцовасці: слова пачало ўжывацца толькі з 1988 года. А рэчавыя доказы — абутак, грэбень, стрэляныя гільзы, посуд, каталіцкія медальёны — усё датавана не пазней за 1940 год. Гэтакім чынам і апошняе даследаванне не знайшло нямецкага следу, але пацвердзіла вынікі папярэдніх.

Вынікі ж сведчаць пра тое, што ўсе пахаванні ўзніклі ў другой палове 1930-х гадоў, што ў асноўным людзі ва ўсіх пахаваннях былі забіты стрэламі ў галаву з савецкага рэвальверу сістэмы "Наган", што ўсе пахаваныя належалі да цывільнага насельніцтва, што характар і наменклатура знойдзеных рэчаў сведчаць: нябожчыкі былі сабраныя ў далёкую дарогу; родны дом яны пакінулі незадоўга да смерці; магчыма, расстраляны без суда, без працяглага зняволення; паходзяць з розных мясцін Беларусі (магчыма, ёсць выхадцы з краін Прыбалтыкі); мяркуючы па абутку, рэштках вопраткі і прадметах індывідуальнага карыстання, большасць пахаваных — рабочыя, сяляне, дробныя служачыя, вясковая інтэлігенцыя; сярод расстраляных ёсць жанчыны.

І вось прайшло два гады, а матэрыялы апошняга следства не надрукаваны і кропка не пастаўлена. Гэтакім чынам, нейкія грамадскія камісіі ізноў змогуць патрабаваць новага "аб'ектыўнага" даследавання. Быццам не дайшлі да іх пасланні невядомых — імёны аднавіць не ўдалося — бязвінных пакутнікаў. Сярод рэчаў жа ў Курапатах быў знойдзены грэбень з надрапаным тэкстам: "Цяжкі лёс зняволенага. Мінск, 25 красавіка 1940 года. Дума пра вас даводзіць мяне да адчаю".

Ва ўрочышчы на камяні ёсць надпіс: "У гэтым лясным масіве, у адпаведнасці з пастановай Савету Міністраў БССР ад 18 студзеня 1989 года, будзе пабудаваны помнік ахвярам масавых рэпрэсій 1937—1941 гадоў". Мінула 12 год — аніякіх помніка і мемарыялу няма. Пакуль Курапатам не нададзены статус мемарыяльных магілак, там будуць шыкаваць пікнікі і гулянкі. Ідзе працэс сцірання памяці, а на тэму народнай трагедыі накладзена табу...

**Алена АРЭШКА,**
**радыё "Рацыя".**

# Портрет короля вопреки очевидности

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Совершенно очевидно, что распространяемые социологические "утки", будто президентскую политику поддерживают многочисленные слои белорусского общества, — не повод для ликования его сторонников и уныния оппозиции. Когда социологи, создающие инструментарий исследования, отдают отчет в том, что политика вообще — это отвлеченное понятие, способное спровоцировать сугубо идеологическую реакцию респондента, понимающие, что вопрошать надо о конкретных, напрямую затрагивающих существование отдельного человека ее направлениях, тогда вырисовывается достаточно правдивая и нелицеприятная картина.

Ключевые, обеспечивающие физическое выживание людей направления президентской политики уже давно не имеют под собой социальной базы. Ценовую политику главы государства отвергает 63% белорусов, (приемлет ее только 10% опрошенных). Его политику в области оплаты труда не поддерживает еще большее число граждан. Почти две трети белорусского населения (65%) говорят ей "нет". Лишь 17% (примерно 1/6) жителей страны все еще терпят эту политику. Причем уровень массового отрицания ключевых направлений президентской политики из года в год неуклонно возрастает. Вот подлинный имидж главы государства, вот реальная планка поддержки его курса народом! Вот о чем давно пора петь сладкоголосым сиренам независимых социологических служб.

### О рейтингах, об овсе и кое-чем еще

Однако остается законный вопрос, как же все-таки быть с многочисленными социологическими рейтингами, якобы свидетельствующими о том, что белорусы любят *"батьку"* пуще сыра и готовы идти за ним в огонь и воду. Остальные фигуранты этих рейтингов в сравнении с ним просто пигмеи, народ почти ничего, кроме отрицательности, к ним не испытывает.

По этому поводу уместно сказать следующее. Данные, извлекаемые из ответов на вопрос типа "Если в ближайшее время состоятся новые выборы президента Беларуси, кого бы вы поддержали в первую очередь?", требуют осторожности. В определенном смысле они являют собой вольную или невольную симуляцию, создание ложного представления о наличии одобрительного отношения к тому, кто на сегодняшний день обладает стопроцентной монополией в экономическом, политическом и информационном пространстве страны.

Нельзя сказать, что в публикуемых рейтингах ведущих политиков, которые неизменно и с большим отрывом от остальных возглавляет действующий президент, нет никакой правды. Какая-то правда есть. Но только "какая-то". Значительная часть правды (если не большая) скрыта от посторонних глаз.

Снова обратимся за примером к доблестному старателю Новаку. Он, как всегда, добывает "вполне прогнозируемые ответы", согласно которым за действующего президента готовы проголосовать свыше 39%. Как говорится, в активе у остальных политиков (их в рейтинге фигурирует 18 человек) подобного и близко нет. Разве можно всерьез принимать уровень поддержки, измеряемый десятыми долями процента или даже тремя, четырьмя процентами? Этим всем "остальным" есть одно определение — политические покойники. Правда, Новак великодушен, он констатирует лишь "политическую смерть" лидеров третьего белорусского возрождения С. Шушкевича и З. Позьняка (намек на кончину самого белорусского возрождения, что ли?). Эти двое совсем дошли "до ручки", число сторонников у первого в 3, а у второго в 11 раз меньше числа противников. Доблестный архитектор рейтингов убежден: этим двоим пора заказывать ритуальные услуги (см. "БДГ" от 17. 01. 2000 г.).

В исследовании другой независимой социологической службы ситуация с рейтингом президента и оппозиционных политиков еще драматичнее. Популярность и влиятельность первого побивает все рекорды (61% и 78% соответственно), а бедолаги от оппозиции с трудом дышат на ладан (см. данные опроса в ноябре 2000 г., опубликованные в Бюллетене БелаПАН "Зеркало", № 28, 2000 г.).

Однако не будем спешить с поминками. Попытаемся увидеть и понять ту часть правды, которая не объявляется широкой публике, которая, образно говоря, находится в положении подводной части айсберга: все о ней догадываются (или даже знают), но мало кто принимает в расчет. Смысл этой правды состоит в том, что сравнение политического веса, политической популярности политиков полностью корректно только тогда, когда равны прочие условия их политической деятельности, в частности, ее информационное обеспечение. Как раз здесь мы сталкиваемся с самой большой несправедливостью и самым большим неравенством нашей политической жизни, одному — все, другим — шиш с маслом.

Что же такое "рейтинг"? Это оценка публичного отношения к тому или иному политику в сравнении с другими политиками. Это степень узнавания его (политика) образа широкой общественностью и одновременно результат состязания с политическими соперниками за симпатии электората. Справедливая, неискаженная рейтинговая оценка предполагает более или менее равное публичное присутствие сравниваемых политических деятелей в информационном поле, хотя бы относительный паритет их возможностей воздействовать на общественное сознание.

Противоестественность нынешней белорусской ситуации, так же как соответствующих рейтингов, состоит в том, что наши оппозиционные политики уже на протяжении многих лет принудительно прописаны в информационном гетто. Публичность, пространство публичной политической жизни давно и безраздельно захвачено одним человеком. Орден обслуживающих его информационных молодчиков бдительно охраняет президентскую монополию. "Чернят" каждого, кто пытается выглянуть из резервации и озвучить нечто, что не соответствует любимому репертуару хозяина.

Чтобы стало яснее, о чем идет речь, вернемся к социологии. В 1999 году Программа ProMedia Представительства IREX в Беларуси реализовала проект "Медиа Мониторинг". Были изучены сюжеты выпусков новостей БТ и первой программы радио, а также материалы общественно-политических газет.

Вот только некоторые результаты этого исследования за сентябрь 1999 года. Присутствие в эфире "Панарамы" лукашенковской особы, если его рассматривать в соотношении с присутствием других политиков, заняло 56% времени, тогда как на 55 других имен, упоминавшихся в передаче, пришлось только 44% общего эфира.

Еще более показателен характер информации о десятке политиков на БТ. На Лукашенко пришлось 9703 секунды нейтральной информации, 1599 секунд позитива и ноль секунд негатива. А, например, не самому обойденному вниманием телевизионщиков оппозиционеру Шарецкому, напротив, досталось только 20 секунд нейтральной информации, ноль секунд позитива и 347 секунд негатива. О четырех других оппозиционных политиках вообще никаких упоминаний. О правителе государства БТ рассказывало 5662 секунды, о Шарецком — 367 секунд. Прямая речь первого звучала 5660 секунд, второго — ноль секунд. Другие оппозиционные деятели остались за кадром.

Подача информации о политиках на радио подобна подаче ее на телевидении. На долю главного чиновника страны пришлось 3115 секунд нейтральной информации, 1070 секунд позитива и ноль секунд негатива. На долю Чигиря, Ходыко, Лебедько, Статкевича, Шарецкого во всех трех номинациях достались ноли.

В государственных газетных изданиях картина такая же. На долю правителя государства приходится 56% от газетной площади, на которой тем или иным образом фигурирует десяток наиболее упоминаемых политиков. Первому лицу перепало 9866 см. кв. газетной площади, где о нем упоминается в нейтральном контексте, и 6470 см. кв. площади, где о нем говорится в позитивном ключе (негатив обнаружен лишь на 15 см. кв. газетной площади). Об оппозиционных политиках не упоминается ничего или почти ничего. Например, о пропавшем без вести Викторе Гончаре позитивных высказываний не было совсем. Нейтральной информации о нем набралось на 1501 см. кв., негатива — на 76 см. кв. газетной площади.

В независимых газетных изданиях, тираж которых не превышает 15% общего газетного тиража в стране, Лукашенко посвящается ни много ни мало — 40% газетной площади, на которой фигурирует десяток наиболее упоминаемых политиков. Разница только в том, что газетная площадь, содержащая критические упоминания об его имени, примерно в два с половиной раза превышает площадь, на которой имеются позитивные и нейтральные упоминания о нем (см. Бюллетень БелаПАН, октябрь 1999 г.).

Спрашивается, какие доводы нужны еще, чтобы понять сомнительность и политическую ущербность утвердившихся в нашей социологии подходов к добыванию рейтингов политических деятелей. Эти подходы чем-то напоминают те, что применялись мошенниками, орудовавшими на одном английском ипподроме. Чтобы безошибочно делать ставки на скачках, они закармливали скакуна-фаворита овсом, а остальных лошадей морили голодом. В результате фаворит всегда приходил к финишу с большим отрывом от остальных скакунов. Напрочь лишенные информационной поддержки оппозиционные политики в рейтинговом состязании с "главным" белорусом напоминают тех некормленых ипподромных кляч, которых легко обходит не знающий проблем с овсом жеребец.

### Чтобы помнили

Будем подводить итоги. Экономические, социальные, политические, культурные отношения организованы вокруг человеческих ценностей. Вследствие этого позиция исследователя от социологии, претендующего на беспристрастность и внешнюю отстраненность, желающего находится над "схваткой", отдает лукавством. Общество — это не внешняя человеку природа, а творимый им самим жизненный порядок. Социологу в создании этого порядка принадлежит одна из самых значительных ролей.

Иными словами, социология обладает возможностью не только изучать, но и, сообразуясь с добытой социологической информацией, направлять развитие общественного мнения. Социолог в состоянии помочь гражданам сориентироваться в общественных процессах, научить их выбирать и поддерживать те или иные политические силы.

Однако самые "независимые" из наших исследователей-обществоведов не устают повторять: мы ученые, наша задача — представить обществу объективную картину его состояния. А политика нас не касается, этим жанром пусть занимаются те, кому по штату положено. Очень удобная позиция.

Только невозможно жить в обществе и быть свободным от него.

Сей очевидный постулат, еще раз повторим, плохо дается некоторым независимым членам социологического сообщества. Время от времени их неодолимо влечет устроиться над "схваткой".

Можно ли им помочь побороть это влечение? Можно и нужно. Тем более что козыри в ваших руках, уважаемые господа оппозиционные лидеры. Следующий раз, когда доблестные ратники от социологии придут к вам просить рекомендацию на получение очередного гранта, не гоните их. Напротив, примите с дружеской лаской и посодействуйте. Но прежде не посчитайте за наказание заглянуть в проект, попросите показать инструментарий. И, памятуя о том, что косвенно несете личную моральную ответственность за добываемую и распространяемую в обществе социологическую информацию, подвергните этот инструментарий неформальной экспертизе. Если не в состоянии провести ее своими силами, привлеките специалистов. В стране много толковых социологов, они охотно и бескорыстно помогут разобраться, к каким берегам влечет будущего грантополучателя. Они компетентно посоветуют, на каких методических условиях надо настаивать, чтобы в обмен на поддержку вам в очередной раз не выдали: "констатируем вашу политическую кончину".

Более того, уважаемые оппозиционные лидеры, пойдите еще дальше. Добейтесь, чтобы вопрос о предоставлении грантов на социологические исследования был поставлен в зависимость от поддержки КРДС. Господа Вик, Козак, Винкельман, Келли, Фасье, Бенаццо, равно как и другие многоопытные дипломаты западных стран, слишком хорошо понимают значение вводимой в уши общественности социологической информации, чтобы, наконец, не поддержать идею создания в Беларуси альтернативной социологии. Общими усилиями надо довести до фондов-грантодателей, что белорусская демократия заинтересована не в параллельной государственным социологическим службам независимой социологии, а именно в альтернативном ее варианте. В том, чтобы ее труды служили не абстрактному образу истины, а тем ее конкретным образам, которые полезны и необходимы для демократического развития нашего общества. Если такой подход утвердится, можно быть уверенным, что в информационном поле страны довольно скоро произойдут сдвиги в сторону либеральных ценностей, авторитет демократических политиков и партий возрастет.

А благовония для белорусской автократии пусть оплачивают где-нибудь в Ираке или на Кубе.

***

**Теперь можно ставить точку. И все же, откуда прилетел сей загадочный птах по имени Новак, кто он вообще, спросите вы? Руководителя социологической службы с такой фамилией у нас нет в природе.**

**Верно, нет. Должно быть, главного чиновника государства подвела память. Будем считать, что "Новак" — это символическое обозначение некоего особого, имеющего двойную моральную регуляцию типа деятельности, собирательный образ радивого работника в описанном выше смысле, его, так сказать, цеховая кличка. А конкретного носителя данного образа пусть каждый определит самостоятельно.**

